Цана асобнага нумару 20 гр.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

№ 2 (195) Вільня, Нядзеля 20 Красавіка 1930 г. Год (VI)

# Сялянская Ніва

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу — палітычная, грамадзкая, літэратур. і гаспадарчая газэта

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1 (Wilno, Ludwisarska 1)
Рэдакцыя адчынена ад 11 да 1 гадз. дня.
ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ
Падпіска каштуе на год 4 зл., на паўгода — 2 зл., на 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 60 гр., 2 і 3—50 гр., на 4-ай—40 грш. — за радок дробнага друку ў адной шпальце.

*УСІХ нашых падпішчыкаў, чытачоў і наагул усіх беларусаў вітаем з ВЯЛІКАДНЕМ!*

## Значэньне бюджэту.

У гэтым годзе Беларускі Пасольскі Клюб правёў у бюджэце пяцьсот тысяч залатовак на беларускую асьвету. Я сказаў — правёў Беларускі Пасольскі Клюб, але-ж гэта выглядае троха іначай. Беларускі Пасольскі Клюб лічыў ўсяго толькі чатыры чалавекі; як лічбовая сіла ў Сойме — дужа малая. Дык роля Беларускага Пасольскага Клюбу выявілася ў тым, што ён паставіў прапазыцыю, бараніў яе, як у камісіі, так і на пленуме Сойму, а ў канцы-канцоў дабіўся таго, што яго прапазыцыі былі прыняты і Соймам і Сэнатам. Сёньня гэта ўжо закон, і беларусы маюць пяцьсоттысячны бюджэт.

Абгаворым яго палітычнае значэньне:

Калі ўсе польскія урады да мая 1926 г. былі прасякнуты ідэалёгія эндэкаў, якія ў сваім дзікім шавінізьме і імпэрыялізьме, ня толькі што не хацелі ісьці на ніякія рэформы ў кірунку палепшаньня долі беларускага народу, але адмаўлялі нам нават самага істнаваньня як народу, не прызнаючы нават мовы, кажучы, што гэта „jakaś gwara", праз увесь час ішла вялікая барацьба між беларусамі як такімі з адваго, — а эндэцкім шавінізмам з другога боку.

Барацьба была няроўная. Беларусы прайшлі цяжкі і цярністы шлях, пакідаючы на гэтым шляху барацьбы вялікія ахвяры. А рэзультат гэтай барацьбы такі, што сёньня ўжо ніхто не гавора, што няма беларусаў.

Гэта некалькі слоў аб эндэцыі, якая трымала ўладу да мая 1926 году.

У той самы час была ў Польшчы другая вялікая група вайсковых, якія ўжо не пярэчылі факту істнаваньня беларусаў, наадварот, казалі, што беларусы ёсьць. Нават кінулі ў 1919 годзе дужа прыгожы лёзунг: „вольны з вольнымі, роўны з роўнымі", але пры гутарках з беларусамі адзначалі, што яны нічога ня могуць зрабіць, бо ўлада ня ў іх руках, але калі дойдуць да ўлады, дык яны, а ня хто іншы, вырашаць пытаньне аб г. зв. нацыянальных меншасьцях.

Прыходзіць май 1926 г. і гэтая вайсковая група даходзіць да ўлады. Шмат-хто з беларусаў думаў, што некаторыя „вэксалі", якіх з 1918 да 1926 году было „выдана" вельмі многа гэтай групай, будуць аплачаны. Тым часам аказалася нешта іншае.

Калі пасьля майскага перавароту група вайсковых пачала фармаваць урад, дык запрасіла да сябе кансэрватыстых, ці г. зв. „kresowych żubrów", і калі адныя ішлі з лёзунгамі, і толькі з лёзунгамі, „рэформаў", дык другія ішлі з лёзунгам „успакаеньня". І як мы бачым, на працягу чатырох гадоў праводзіцца „успакаеньне", а „рэформаў", пакуль-што няма. Гэта фактычны стан рэчаў пасьля майскага перавароту.

Сёлета праведзены асьветны бюджэт уважаем за шаг вачерад; боязна, каб урад не зрабіў два шагі назад!

Усюды з вырашэньнем такіх спраў, як справы нацыянальных меншасьцяў, пэўныя дагаворы з іншымі дзяржавамі і г.д. выступае з ініцыятывай урад, а ў Польшчы зрабілася наадварот. Сойм даў наказ ураду прадставіць магчымасьць беларусам хоць запачаткаваць сваё школьніцтва.

Гэты бюджет не здаваляе нашых школьных патрэб: ён так малы, што ня многа з ім зробіш! Але добра хоць тое, што беларускае школьнае пытаньне перастане вырашацца у „wydziałach bezpieczeństwa", што сапраўды было больш, як анармальна.

Як урад выканае наказ Сойму; пажывём — пабачым?!

**Незалежнік.**

## АДОЗВА
### БЕЛАРУСКАГА ПАСОЛЬСКАГА КЛЮБУ.

БЕЛАРУСЫ!

Дня 24 лютага с. г. Найвышэйшы Суд у Варшаве скасаваў у Лідзкім вокрузе выбары ў Сойм, якія былі праведзены ў 1928 г. з надужыцьцямі.

Галоўны выбарны камісар, паноўныя выбары ў Сойм у Лідзкім вокрузе вызначыў на дзень 25 траўня (мая) с. г.

Беларускі сьпісак № 18, які ў 1928 г. быў незаконна скасаваны, Найвышэйшы Суд прызнаў правільным і вярнуў яму правы.

Беларускі сьпісак Блёку Нацыянальных Меншасьцяў № 18 цяпер важны і будзе выстаўлены у Лідзкім выбарным вокрузе.

Дня 14 красавіка с. г. Найвышэйшы Суд скасаваў выбары ў Сойм і ў Сьвянцянскім вокрузе, касуючы гэтым самым мандаты трох беларускіх паслоў, якія ў 1928 г. прайшлі ў Сойм па беларускім сьпіску Блёку Нацыянальных Меншасьцяў № 18.

З прычыны гэтай у польскім парляманце асталося толькі трох беларускіх прадстаўнікоў: адзін пасол і двух сэнатараў.

Беларускі-ж народ пад Польшчай павінен мець сваіх прадстаўнікоў у Польскім парляманце: Сойме і Сэнаце дзеля абароны сваіх інтэрэсаў, як нацыянальных, так сацыяльных і рэлігійных, а так-жа і дзеля таго, каб даваць знаць усяму сьвету, што Беларускі народ жыве і дамагаецца сваіх, належных яму правоў.

Дзеля гэтага ўсе беларусы павінны ісьці на паўторныя выбары, у першую чаргу ў Лідзкім выбарным вокрузе, якія як вышэй сказана адбудуцца 25 траўня (мая) с. г.

На гэтыя выбары ідуць так-жа і ўсе польскія партыі: Вызваленьне, ППС., Страніцтва Хлопскае, Б.Б. і іншыя. Гэтыя польскія партыі маюць з усей Польшчы многа сваіх паслоў, якія, пэўне-ж маючы грошы будуць раз'яжджаць па правінцыі Лідзкага выбарнага вокругу і намаўляць нашых людзей, каб галасавалі за іхнія сьпіскі.

Беларускі Пасольскі Клюб, які цяпер мае, як вышэй сказана толькі аднаго пасла і двух сэнатараў, ня зможа раз'ясьніць у кожным мейсцы справу выбараў, а такжа, ня маючы матэрыяльных сродкаў, ня зможа выслаць сваіх інструктараў.

Дзеля гэтага заклікаем усе дзейныя беларускія адзінкі ў Лідзкім, Ашмянскім, Валожынскім, Вялейскім і Шчучынскім паветах раз'ясьняць у сваіх ваколіцах сялянам аб патрэбе галасаваньня на свой сьпісак № 18.

Усе неабходныя друкі: агітацыйная літэратура, раз'ясьненьне правоў агітацыі і нумаркі выпісвайце з Беларускага Цэнтральнага Выбарчага Камітэту па адрасу: **Wilnia, Ludwisarskaja wul. 1—19.**

Беларусы Лідзкага выбарчаго вокругу, паветаў: Вялейскага, Маладечынскага, Ашмянскага, Лідзкага і Шчучынскага ў дзень 25 траўня (мая) с. г. павінны ўсе, як адзін, мужчыны і жанчыны ісьці ў свае выбарчыя абводы на галасаваньне і галасаваць за Беларускі сьпісак Блёк Нацыянальных Меншасьцяў № 18.

**Прэзыдыум Беларускага Пасольскага Клюбу.**

## Кароткія вестkі.

— У Латвіі адбыліся перавыбары прэзыдэнта. Заместа Г. Зэмгальса, на прэзыдэнта выбраны А. Квесіс.

— У Нямеччыне ўрад сац. дэмакрата Мюльлера падаўся ў адстаўку. Новы урад утварыўся пад старшынством Брюнінга з буржуазнай партыі, г. зв. цэнтру.

— У сьвеце яшчэ ўсё адбываюцца пратэсты проці савецкіх парадкаў у Расеі. Па сьвятынях яшчэ ўсё моляцца аб ўратаваньні Расеі ад бальшавікоў.

— Умерла швэцкая каралева Вікторыя і абіссінская імпэратрыца Юдзіф.

— У ледавітым акіяне каля Мурманска злоўлены кіт, які мая 21 мэтр даўжыні і важыць 2 тысячы пудоў.

— У Францыі за 1929 год нарадзілася 12,564 чалавекі больш як умерло. У 1928 г. на 70 тысяч сьмяротнасьць перавысіла нарадзіны.

— Умёр сэрбскі праваслаўны патрыярх Дымітры, на яго места выбраны патрыярхам архіепіскап Варнава.

— На ўсім сьвеце ідуць падгатоўкі да сьвята 1-га мая. З другога боку паліцыя, чакаючы ўсякіх здарэньняў, гатовіцца так-жа.

— У Польшчы — 296 тысяч безработных.

*ГРАМАДЗЯНЕ!*

*Прысылайце падпіску на «Сялянскую Ніву».*

